Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 19 Серада, 3-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар.— 5 гр.



## Заблутаная справа.

Польская прэса розных кірункаў пачынае прызнаваць, што справа аздараўленьня акраіннага жыцьця вельмі заблуталася.

Яно і праўда. У папярэднім нумары мы пісалі аб мэтодах, якімі Урад зьбіраўся папрабаваць правадзіць *акраінную санацыю (аздараўленьне)*. Ясна зазначалі мы, што аканчальны выхад з заблутанасьці магчымы толькі ў поўным прызнаньні ўсіх асаблівасьцяў нашага краю і ў *абвешчаньні права гэтага краю на тэрытарыяльную аўтаномію.*

Здаецца, мы памыляліся толькі ў адным тым, што не разумелі, як трэба, тых зьменаў на вышэйшых (ваяводзкіх) пасадах у Віленшчыне й Навагрудчыне, якія ледзь што ня сталіся фактам.

Рэалізацыя ўрадовых замераў спаткала нязгоду Віленскага Дэлегата п. В. Романа на назначэньне яго віцэ-міністрам, калі гэтак можна сказаць, без портфэля. З прычыны неакрэсьленасьці сваіх віцэ-міністэрскіх функцыяў п. Роман адмовіўся ад сгае новае службовае ролі.

Гэта саўсім рацыянальна. Бо ад таго, хто найболей у курсе нашага тутэйшага жыцьця, трудна было спадзявацца чагосьці іншага.

Мы ня вельмі дзівіліся *часоваму* замеру ўладаў павялічыць на пагранічны ваенна-паліцэйскія меры, з тэй толькі агаворкаю, каб ня было поўнага адхіленьня ад конституцыйных гарантыяў.

Але, як выяўляецца з галасоў некаторых, вельмі паважных польскіх часопісяў, ды таксама апублікованае гутаркі з гэн. Рыдз-Сьміглым, цэнтральны варшаўскі урад проектаваў у нашым краі нешта накшталт фактычнага ваеннага (калі не мацней толькі) палажэньня. Мела стварыцца гэткая сытуацыя, пры якой максімум улады быў-бы ў вайсковых руках, ці, як адна польская часопісь кажа, ў руках гэнэрал-ваяводаў. Цывільныя—ваявода ў Навагрудку і Дэлегат Ураду ў Вільні былі-б як-бы нейкімі пад-ваяводамі.

Ці-ж ад гэтага мела-б палепшыцца палажэньне на акраінах?

Калі ваеннае ці іншае палажэньне сапраўды зьяўлялася-б адзіным выхадам на нейкі час, дык няма чаго з ім таіцца — яно павінна было-б праводзіцца з захаваньнем усіх конституцыйных фармальнасьцяў проста і адкрыта.

Але нам здаецца, што мы ўсе— жыхары няшчасных акраін, што прылягаюць да мудрае рыскае граніцы, — не заслужылі нічым нейкага выняткавага стану.

Мы ня хочам прыкрага для спакойнага беларускага насяленьня нейкага выняткавага палажэньня ў тым ці іншым сэнсе.

Мы лічым за свой абавязак папярэдзіць, як польскае грамадзянства, што вякамі жыхарствуе з намі на аднэй і тэй самай няшчаснай зямельцы, так і цэнтральныя польскія ўлады, што ўвядзеньне ў нас выняткавага стану ня толькі нічога ня зьменіць на лепшае, але яшчэ горш адабʼецца на нашым жыцьці, моцным рэхам адгукаючыся сярод паноў палажэньня ў Усходняй часьці Беларусі.

Каму, як ня ім можа быць даны новы козыр для скрытае агітацыі за тое, што нібыто толькі яны, нікім ня прошаныя, могуць на ўсёй Беларусі навясьці лад і парадак. Хто, калі не яны пачнуць трубіць на ўвесь сьвет, ня глядзячы на тое, што мала хто іх дзе слухае, быццам тут усё *часовае*, быццам сапраўды нейкая окупацыйна-ваенная сыстэма. Наш бедны сярмяжны народ можа муціцца, ня глядзячы на ўсю цьвёрдасьць адміністрацыйнага апарату, яшчэ болей, як раней.

Паўтараем яшчэ раз, што годзі нас трактаваць, як пасынкаў у Польскай Рэспубліцы. Час ужо, нарэшце, стварыць гэткія варункі быту, якія былі-б кожнаму беларусу дорагі, а рэшта—усё прыложыцца само сабою.

Збаўце беларуса ад галіцыйскага вурадніка, зразумейце яго права мець свае ўласныя нацыянальныя інтарэсы, дайце яму магчымасьць самому бароцца з тым, што ён ненавідзіць, што зьяўляецца агідным для кожнага чалавека XX сталецьця і ўсё пачне ісьці інакшай дарогаю.

Агіднае зьявішча, аб якім мы кажам тутака—гэта варʼяцкі бандытызм замежнага паходжаньня й замежнай фабрыкацыі. Ад яго пасьледзтваў найболей церпіць беларус у сваёй масе.

І мы пачынаем адтрымліваць з глухіх провінцыяльных куткоў пацьвярджэньне таго, што народ разглядае бандытызм, як такі, бяз ніякіх апраўданьняў. У вачох народных дзічыня бандытызму заўсёды адбіваецца, як дзічыня, аб чым мы ўжо даўно пісалі, калі разʼіграўся нячуваны сярод дзяржаваў усяго культурнага сьвету, стаўпецкі напад.

Трэба добра пільнаваць няшчаснае для нас граніцы з тымі, хто, спэкулюючы на беларускай народнай цемнаце, рад сеяць па нашай зямлі бандытызм, але-ж нельга ствараць цяжкага адміністрацыйнага прэсу па ўсёй глыбіні нашых ваяводзтваў.

Голым узмацненьнем паліцэйскае ўлады акраінных справаў разблутаць немагчыма.

Патрэбна шчырае і аўторытэтнае прызнаньне нашых этнографічных, гістарычных і географічных асаблівасьцяў, патрэбна поўная пашана да вечна жывых народных традыцыяў і простых жыцьцёвых інтарэсаў. Ніхто нікому сілаю мілым ня зробіцца, а збрыдзець хіба што й можа.

Сярод польскае прэсы мы заўважаем галасы аб розных крэсовых абмылках. Няўжо-ж яны павінны стаць кодэксам для нас?

Заблутаную справу аздараўленьня акраіннага жыцьця трэба разьвязаць, але разьвязаць спакойна і аканчальна: трэба не баяцца поўнае адмовы ад цэнтралізму і ад дарэмнае надзеі зьмяніць беларускі нацыянальны твар.

## Палітычны агляд.

Як раней агульная ўвага была зьвернена на Лёндан, а ў апошнія дні на Бэрлін, у якім рашаўся лёс рэпарацыйнага пытаньня, гэтак цяпер усіх вочы зьвернены на Жэнэву, дзе вырашаюцца прынцыпы ўзаемных гарантыяў усіх дзяржаваў на выпадак будучай вайны. Мінулая вайна паказала, якое гэта ёсьць вялізнае няшчасьце для чалавецтва. Ужо прайшло сем гадоў ад часу перамірыя на заходнім фронце, а чалавечыя і матарʼяльныя раны народаў яшчэ не залячыліся, ня кажучы ўжо аб вялізных моральных пасьледзтвах, як упадак моральнасьці, ўтрата пашаны да чужое ўласнасьці, бандытызм і г. п., катрыя адсунулі людзкую культуру на колькі дзесяткоў гадоў назад. Дзеля гэтага старанні лепшых сучасных людзей скі-

рованы да таго, каб у будучыне ня было аружных спатканьняў народаў, а калі гэта не магчыма, дык каб хаця іх адсунуць на далейшы час, бо яны могуць стацца агульнай бітвой усіх проці ўсіх. Да гэтай мэты йдуць цяпер тры найсільнейшыя сусьветныя дзяржавы — Англія, Злучаныя Штаты і Францыя, якія ўжо зрабілі вялізны крок уперад на гэтай дарозе ў Лёндане, а цяпер толькі застаецца закончыць пачатую справу ў Жэнэве пры помачы Лігі Народаў. Дзеля гэтага ў Жэнэву выехалі на чарговае паседжаньне Лігі Народаў, пачаўшаеся 30 жніўня, ангельскі прэм'ер Макдональд, Эрыо, амэрыканскі прадстаўнік, польскі міністар заграні́чных справаў Скржынскі і міністры заграні́чных справаў усіх іншых сусьветных дзяржаваў, якія ўваходзяць у Лігу Народаў.

Гэта будзе першае паседжаньне Лігі Народаў (агулам пятае), на якім будуць асабіста прэм'еры вялікіх эўропэйскіх дзяржаваў. З гэтага ўжо відаць, якое вялізнае значэньне для будучыні ўсяе Эўропы будзе мець цяперашняе паседжаньне Лігі Народаў.

У Жэнэве будуць рязглядаца колькі проектаў узаемнай паддзержкі дзяржаваў, калі-б заатакаваў іх хто з суседзяў. Між іншым прадстаўлены ангельскі проект, паводле каторага павінна быць агульная абаронная сувязь і міжнародны трыбунал дзеля згоднага ўладжаваньня ўсіх конфліктаў, якія могуць быць паміж паасобнымі дзяржавамі, і амэрыканскі проект, які прапануець зьмяншыць азбройваньне і агульны байкот грамадзян тае дзяржавы, якая першая нападзе на свайго суседа. Ведама, што якіколечы з гэтых проектаў будзе прыняты ўсімі дзяржавамі, дзеля таго, што нікога, здаецца, ня знойдзецца такога сярод сяброў Лігі Народаў, хто адважыўся-б падняць голас проці азбраеньня і вайны ў будучыне. Навет у Нямеччыне, якая дагэтуль яшчэ не ўваходзіць у Лігу Народаў, у апошнія часы ўзяў верх згодны палітычны напрамак. Калі-ж некаторыя дзяржавы, як Польшча, Румынія ды іншыя суседзі С. С. Р. Р., ня могуць цяпер згадзіцца зьменшыць свае зброеньні, каб не аслабіць свае ваенназдольнасьці, дык гэтага вымагае іхняе выключнае географічнае палажэньне. Аб гэтым якраз нядаўна казалі на міжнароднай парлямэнцкай конфэрэнцыі ў Жэнэве, якая таксама займалася пытаньнем аб абязброеньні і спыненьні вайны ў будучыне. Трэба памятаць, што побач з Заходняй Эўропай, якая йдзе да згоднага жыцьця і стараецца наладзіць добрасуседзкія адносіны, ёсьць Саюз Соц. Рад. Рэсп., які не ўваходзіць у Лігу Народаў, не прызнае ніякіх міжнародных законаў і ўсімі сіламі зброіцца. У той час, як мілёны народу паміраюць з голаду, фабрыкі спыняюць работу дзеля таго, што няма куды прадаваць тавараў, чугункі ледзьледзь працуюць, ваенныя фабрыкі і прадпрыемствы працуюць без адпачынку. Пры помачы нямецкіх капіталаў і навучна-тэхнічных падмогаў у С. С. Р. Р. адчынілася шмат фабрык для вырабы аэроплянаў, гарматаў, бомбаў з атручваючымі газамі,—ў якіх ідзе бязупынная праца. І ў той час, як амаль ня ўсе сусьветныя дзяржавы высылаюць сваіх прадстаўнікоў у Жэнэву, каб знайсьці спосабы спыніць вайну ў будучыне, бальшавікі займаюцца концэнтрацыяй сваіх войск на польска-румынскай граніцы, будуюць палявыя ваенныя фортыфікацыі ўздоўжкі румынскай граніцы, высылаюць адну за другой аружныя банды на польскую тэрыторыю, мобілізуюць у сябе людзей і коні... Няужо-ж гэта на вызаў усяму культурнаму сьвету, які зьехаўся ў Жэнэву. І няўжо-ж Жэнэва ня зьверне ўвагі на Маскву, якая ёсьць вогнішчам сусьветнай заразы і адзінаю пагрозаю эўропэйскаму міру?

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— Уночы з 29 на 30 жніўня, ў Варшаве паліцыя зрабіла вобыск у саюзе гарбароў. Паліцыя якраз трапіла на паседжаньне камуністычнага „камітэту дзеяньняў“ з удзелам дэлегатаў ад Верхняе Сілезіі. Арыштована 114 чалавек, з якіх 98 звольнены на свабоду, а рэшта аддана ў распараджэньне сьледчых уладаў.

— Польскі Урад ня даў згоды на назначэньне савецкім прадстаўніком у Варшаве Войкава. Гэты самы Войкаў раней быў намечаны на пост савецкага прадстаўніка ў Канадзе, але й канадзкі ўрад адхіліў гэту прапазыцыю. Паводлуг інформацыяў варшаўскае прэсы, Войкаў падпісаў прыгавар сьмерці царскай сям'і ў Екацерынбургу і асабіста браў удзел у выкананьні гэтага прыгавару.

— „Robotnik“ піша, што савецкі ўрад запрапанаваў польскаму ўраду адклікаць шэсьць асоб з ліку польскае місіі ў Маскве і польскіх консулятаў у розных местах С. С. Р. Р.

**За граніцай.**

— Прадстаўнікамі зацікаўленых дзяржаваў падпісаны **лёнданскі** дагавор.

— Гандлёвая палата ў **Ліверпуле** прыняла рэзалюцыю протэсту проці англа-савецкага дагавору, трэбуючы ад ураду, каб не ратыфікаваў яго.

— Офіцыяльнае паведамленьне аб пробнай мобілізацыі ў Амэрыцы разьясьняе, што мэта яе дэмонстрацыя збройных сілаў Злучаных Штатаў.

— Кароль **Гэджасу** Гусэйн даў сваю згоду на дыплёматычныя зносіны з С. С. Р. Р.

— **Эстонскія** камуністы выяўляюць апошнім часам рухавую дзейнасьць. Яны зарэстравалі 4 новыя газэты. Камуністычныя агітацыйныя лісткі раскідаюцца ў вялізным ліку.

— „N. Pr. Presse“ перадае з **Парыжа**, што **неофіцыяльныя перагаворы** францускага ўраду з саветамі пачнуцца пасьля паваroту Эрыо з Жэнэвы. Тады камісія з 12 асобаў займецца апрацаваньнем проекту дагавору. З боку С. С. Р. Р. выступіць Ракоўскі і Красін; магчыма, што прыедзе ў Парыж і Чычэрын.

— Як перадае **„New Iork Herald“** з **Вашынгтона**, прэзыдэнт Злучаных Штатаў Кулідж выказаў задаваленьне ад прыняцьця нямецкім парлямэнтам пляну Давіса. Гэтае рашэньне рэйхстагу зьяўляецца крокам наперад у палепшаньні гандлёва-прамысловага палажэньня ў Амэрыцы й Эўропе.

— Згодна з абавязаньнямі, прынятымі на сябе Эрыо і Тэпісам у пісьме на імя нямецкага канцлера Маркса ад 16. VIII. 24. ваенная эвакуацыя паласы Дортмунд — Вэрдэ, а таксама абшараў окупаваных за межамі Рурскага басэйну 11 студня 1923 г., пачнецца адначасна з эканамічнай эвакуацыяй гэтай-жа паласы. Срок 1-га верасьня зьяўляецца пачаткам правядзеньня ў жыцьцё пляну Давіса.

— 5-е сабраньне Лігі Народаў у **Жэнэве** адчынілася 1-га верасьня прамовай бэльгійскага міністра заграні́чных справаў Гюманса, зазначыўшага, што прадбачыцца рашэньне вельмі важных пытаньняў. Прадстаўлены на сабраньні 50 дзяржаваў. Прэзэсам Сабраньня Лігі Народаў аднагалосна выбраны шэф швэйцарскае дэлегацыі Мотта.

— Паводдуг вестак з **Мароко**, захапленьне паўстанцамі проці Гішпаніі мясцовасьці Тэтуану выклікала збройны рух усіх плямёнаў заходняй паласы, змушаючы галоўную кватэру выдаваць спэцыяльныя загады з мэтай спыненьня камунікацыі паміж Тэтуанам і Шэхауэнам.

— Паслы вялікіх дзяржаваў **у Пэкіне** падалі 31 жніўня кітайскаму ўраду ноту, запэўняючы, што вялікія дзяржавы пастанавілі ўмяшацца з мэтай папярэджаньня хатняе вайны ў **Кітайшчыне**.

— У лёнданскіх палітычных кругох моцнае ўражаньне выклікаў той

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 18 „Грам. Голасу“).*

— Хто рабіў гэту канаву? — задаў я ім пытаньне.

— Хто рабіў? — перапытаў мяне Караба.

— А бачыце яна ідзе ад старога замку, сьледу ад якога нават ужо і не засталося, а вось пабачыце самі.

Ішлі далей моўчкі. Усё часьцей і часьцей схіляліся да нас галіны дрэваў і, нарэшце, мы ішлі праз зялёны тунэль. Прабірацца па высокай траве было цяжка і мы часта заставаўляліся адпачываць... Так ішлі мы аж за поўдзень.

— Зара будзе паварот, дык вось і ўбачыце „Тры Крыжы“. Тутака мы і адпачынем, — загаманіў Караба.

І праўда, праз шагоў пяцьсот, канава рабіла круты заварот і зялёная заслона, якая вісела над намі, згінула. Па абодвых краёх канавы стаялі густа елкі.

— Глядзеце вун сюды! — запыніў мяне Караба, паказваючы кудысь рукою.

Я зірнуў туды і ўглядзеў сярод гушчару елак тры вялікія, абросшыя зялёным мохам, крыжы.

Я застанавіўся і глядзеў.

## XVIII.

### Тры Крыжы.

— Хто збудаваў іх? — думаў я, гледзячы на іх. — Хто? чыя нага была тутака? Чыя рука пакінула сярод дзікага гушчару лесу гэтыя крыжы? Над кім яны стаяць?...

— Гэ, вы, сябра, нешта задумаліся? Ня сумуйце! — зьвярнуўся да мяне Караба.

— Вось, хадзеце да іх бліжэй. — Мы падайшлі да самых камянёў, у якіх былі ўмацованы крыжы.

— Ну, вось слухайце, — пачаў Караба.

— Даўно, даўно, нават дзяды нашы не памятаюць гэтага году, тутака недалёка стаяў стары замак. На яго месцы мы пабываем яшчэ сёньня і легэнду аб ім я вам раскажу, а, пакуль што, аб крыжох слухайце: Паставіў гэтыя крыжы Юрка Касы. Пад сярэднім пахованы яго бацька, — князь Радзівіл, пад другім — яго другі бацька, а пад трэцім — з якога боку, ня ведаю, ён сам.

— Хто такі быў Юрка Касы? Які Радзівіл? І як у яго былі два бацькі? — зьдзіўленна запытаў я, глянуўшы на іх абодвух.

— А вось, як прыдзем да месца, дзе быў стары замак, дык я вам раскажу ўсё папарадку, а, пакуль што, давайце адпачынем дый пападуднуем, — закончыў ён, і яны пачалі рыхтаваць яду.

Я адыйшоў ад іх, прыхіліўся да елкі і думаў. Дык вось дзе хаваецца праўда пра маіх дзядоў і прадзедаў! Дык вось хто хавае праўдзівую мінуўшчыну майго народу! Дык вось хто захаваў славу і гонар старонкі мае! Ты, ты, старадаўны лес! Табе я павінен дзякаваць за ратунак нямых сьведкаў пра жыцьцё старонкі мае..

Дык ведай, цёмны лесе, ніхто не дазнаецца ад мяне пра месца, дзе хаваеш ты гонар роднай старонкі маей. Ведай! вось тутака ля трох крыжоў прысягаю Табе, ніхто не пазнае!..

— Сябра! А, сябра! — пазваў мяне нехта і мары мае зьнiклі...

— Вось закусеце!

Смачна пад'еўшы, мы крануліся далей.

Бывайце, Тры Крыжы, і памятайце я прысягу сваю вам датрымаю!...

## XIX.

### Муры Замку.

Цяперака мы ішлі лесам. Нам прыходзілася добра глядзець пад ногі, каб не зачапіцца дзе-колечы за карэньне і не апыніцца ў балоце. Гэтак мы прайшлі ня ведаю колькі вёрст лесам, як я пачаў прымячаць то тутака, то тамака старыя, пакрытыя зялёнай плесьнию цагліны спачатку рэдкія, а пасьля ўсё часьцей і часьцей... Караба, які йшоў ззаду за мною, сказаў:

— Вось, гляньце ўжо пачынаюцца сьляды замку.

Лес станавіўся ўсё гушчэй і гушчэй, раптам пашоў такі густы елавец, што нам прышлося прадзірацца праз яго, як праз лазу на балоце, добра яшчэ было тое, што балота скончылася.

— Ну, вось хутка і замак, — сказаў Караба.

факт, што прадстаўнікі **Латвіі, Эстоніі й Літвы** заявілі протэст з прычыны савецкае ўвагі да англа-савецкага дагавору, згодна з якою саветы прызнаюць палову даўгоў **быўшае Расеі,** а рэшта (другая палова) падае на дзяржавы, якія паўсталі на тэрыторыі быўшае Расейскае Імпэрыі.

— Падчас разгляду **нямецкім рэйхстагам** пытаньня аб увядзеньні абаронных мытаў, соц.-дэмакрат Лебэ патрэбаваў зьняць гэтае пытаньне з павесткі дня. Падчас яго прамовы соц.-дэмакраты з камуністамі пакінулі залю паседжаньня, што выклікала адсутнасьць кворуму і паседжаньне было зачынена.

— З **Масквы** паведамляюць, што ЦИК саўсім дараваў віну Савінкову.

— 8-га верасьня **нямецкі** міністар працы Браун спаткаецца з міністрамі працы **Францыі і Англіі.** Гэтыя міністры маюць паразумецца аб справах, зьвязаных з вашынгтонскаю рэзалюцыяй датычна часу працы. На конфэрэнцыі будзе таксама дырэктар міжнароднага бюра працы, францускі соцыяліст Альбэр Тома.

— **Баўгарскае** Тэлегр. Аг. паведамляе з Софіі: Весткі афінскае прэсы, што паходзяць з Белграду і Салонік, нібыто баўгарскія пагранічныя пасты ў ваколіцы Пэтрыч узмацованы 180 ахвотнікамі, далей нібыто афіцэрскія лігі утварылі ахвотнічыя батальёны у Плёвдів і Варне, нарэшце, нібыто грэцкі пасол запротэставаў проці гэтага—зьяўляюцца пазбаўленымі ўсялякага грунту.

— Пытаньне кантролю Лігі Народаў над **азбройваньнямі Нямеччыны** і быўшых варожых краёў будзе тэмаю для аднае з першых конфэрэнцыяў паміж Мак-Дональдам і Эрыо ў Жэнэве. Францускія прадстаўнікі паказваюць на тое, што францускі ўрад жадае якнайхудчэйшага вырашэньня гэтае задачы.

— З Лісабону **(Португалія)** паведамляюць офіцыяльна аб тым, што група камуністаў атакавала форт сьвятога Юр'я. Атака была адбіта штыхавым ударам войска. Зроблена 19 арыштаў. Старшыня рады міністраў заявіў, што інцыдэнт ня носіць рэвалюцыйнага характару. Паводлуг вестак, пераданых італьянскаю прэсаю, камуністычныя непарадкі ў Лісабоне насілі крывавы характар. Некалькі афіцэраў і салдатаў цяжка ранены.

— У **Югаславіі** апублікованы прыказ аб аднаўленьні намесьніцтва ў **Харватыі**. Опозыцыйныя кругі называюць прыказ „нарушэньнем констытуцыі" і „небясьпечнаю уступкаю" Радзічу. Урадовыя кругі заяўляюць, што аднаўленьне намесьніцтва саўсім адпавядае констытуцыі.

— Як паведамляе „Vorwärts" на дакладзе 26 жніўня Вандэрвэльда ў **Белградзе** камуністы зрабілі скандал. Адзін рабочы цяжка ранены.

— Аг. Рэйтэра у Су-Сунг (**Кітайшчына**) паведамляе, што маршал Хі ваенны губэрнатар Кі-Янг-Су гатоў вырушыць на Шанхай. Падзеі маюць раз'іграцца ў найбліжэйшыя дні.

— **Румынскі** ўрад паведамляе, што на Чорным моры недалёка ад упаданьня Дунаю адбывае вялікія манэбры савецкі ваенны флёт. Гэты факт выклікаў вялікі неспакой сярод насяленьня паўночнае Дабруджы.

— З **Рэвэля** паведамляюць, што **Эстонія** прадставіла ў Лігу Народаў проект раззбраеньня Прыбалтыкі.

— **Латвійскі** ўрад запытаў саветы аб тым, ці адпавядае праўдзе чутка аб пробнай мобілізацыі ў С. С. Р. Р. Адказу дасюль няма.

## Конфэрэнцыя беларускіх студэнтаў у Празе.

Нас паведамляюць з Чэхаславакіі, што 20-га мінулага жніўня ў Празе адбылася першая конфэрэнцыя беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, на якой былі дэлегаты з Заходняй Беларусі і з-за граніцы. Конфэрэнцыю віталі, апрача прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, прадстаўнікі украінскага, грузінскага і іншых студэнцкіх саюзаў. Прывітаньне на пісьме было адтрымана ад старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Крачэўскага. Конфэрэнцыя залажыла *цэнтральны* студэнцкі саюз, у Прэзыдыум якога выбраны: Грышкевіч (прэзэс), Коберац, Гузоўскі, Яноўскі й Манастырскі. Камуністыя, злажыўшы дэкларацыю з мотывамі, адмовіліся працаваць разам з іншымі студэнтамі, з прычыны нэгатыўных адносін з боку апошніх да радавае ўлады.

# Агляд прэсы.

### Настаўніцтва ў ССРР.

Невядомы карэспандэнт у „Беднотэ" ставіць новую баявую задачу на ўнутраным фронце: Задача гэтая — зьнішчэньне граматнасьці (!) ў вёсцы.

> Нам патрэбен *„учитель - общественник"*, —

падкрэсьлівае „Бедната", таму што:

> „сучасны сельскі настаўнік, просты патомак капіталіста, няздольны выхоўваць сапраўднага байца-камунара, ён здольны яшчэ вясьці карагод з папом і спэкулянтам. А шмат яшчэ і гэткіх, якія лічаць сябе мудрацамі ды шчырымі дэмакратамі, гутараць так і сяк аб бяспраўі ды аб камуністычным вастрозе.

Задача ставіцца проста:

> ...стварыць клясавы тып настаўніка для вёскі,

а дзеля гэтага:

> ...пры запаўненьні вольных пасадаў часова апусьціцца да назначэньня на пост настаўніка першае ступені рэвалюцыйных перадавікоў з рабочых і сялян.

Ведама, што могуць застацца на месцы і старыя народныя настаўнікі, але:

> яны павінны адрачыся ад свайго мінулага і ад сваіх перакананьняў...

Якраз, як пры Мікалаю II.

> У 1917-18 г. г. народнаму настаўніку здавалася,—піша „Беднота", — што бальшавікі — гэта альбо праступныя дэмагогі, якія сьвядома распальваюць інстынкты народнае масы, альбо шалёныя фанатыкі, і што іхняя безадпавядальная дзейнасьць прывядзе край да поўнае пагібелі...

---

Справа „Крэсаў Усходніх" у апошнія часы займае шмат месца ў польскай прэсе ўсіх напрамкаў і, разглядаючы балячкі гэтага пытаньня, амаль усе згодна вінавацяць тую фальшывую палітыку, якая тут праводзілася і благую адміністрацыю, якая не патрапіла здабыць сымпатыі мясцовага насяленьня для польскае дзяржаўнасьці.

„Kurjer Poranny" паміж іншым піша:

> Можна яшчэ старыя абмылкі папravіць, але з умовай, каб той, у чыіх руках улада—Сойм і Урад—рашыўся правясьці рэформу аграрных адносін у духу народных інтарэсаў. Тады справа колёнізацыі Беларускіх крэсаў польскім элемэнтам ня будзе мець гэткай войстрасьці, а адначасна ўрадовая чыннасьць, у кірунку комасацыі сялянскіх грунтаў, найсільнейшым будзе козырам у руках Польшчы ў барацьбе з усялякай расейскай дывэрсыяй...

Далей аўтор закранае справу асадніцтва:

> Вялікая абмылка зроблена, раздаючы зямлю выключна элемэнту прышламу, а выключаючы ў гэтым здарэньні, элемэнт вайсковы, ахвотнічы, мясцовы...
>
> Можна доўга вылічаць абмылкі, зробленыя на беларускіх крэсах, абмылкі, каторых рэзультатам была лёгкасьць опэраваньня дывэрсыйных бандаў, арганізованых з другога боку граніцы. А пасьля старых абмылак прыйдуць новыя, калі грамадзкая думка краю катэгорычна не зажадае ад адпаведных сфэраў выразнай праграмы дзеяльнасьці, палітычнай думкі, аблічанай не ад факту да факту, але ўзапраўды абапёртай на вялікай Ягелёнскай традыцыі, пабудованай аднак не на фразе, але на запраўдных грамадзкіх і эканамічных вымогах, абвеяных духам новага часу.
>
> Пры адначаснай войстрай антыдывэрсыйнай кампаніі трэба якнайхутчэй узмацаваць чыноўніцкія ра-

---

— Сюды! — крыкнуў Ганчар. Мы кінуліся да яго і ўгледзелі невялічкую палянку, ўсю пакрытую невялічкімі бярозкамі, сярод якіх ляжалі грудамі цэглы.

— Вось і замак! — сказаў Караба. — Як бачыце ўжо нічога не засталося, ну, а усё-ж месца яшчэ знайсьці магчыма.

Я абайшоў усю палянку, стараючыся хоць што-нібудзь знайсьці цікавае, і так-такі знайшоў! Гэта быў жалезны стоўп, з кальцом, які стырчэў з цаглянай кучы Што гэта за кальцо? Дзеля чаго яно? Ці конь стаяў прывязаны да яго? Ці можа які-нібудзь небарака канчаў свой век у мурох князявага замку? А мо красуня-жонка тамілася за здраду сярдзітага мужа-князя? А мо проста за яго закладаўся які-нібудзь запор ад брамы замку?

Маўчаць нямыя сьведкі, маўчыць стары лес, дый ці быў ён тутака калі істнавалі харамы князёўскія? Хто ведае?

У марах зьвярнуўся я да сяброў. Ужо гарэў касьцёр і Ганчар нешта варыў у саганчыку.

— Ну што, аглядзелі? — запытаў мяне Караба.

— Але — ўсё, — адказаў я.

— Ну вось добра, пакуль будзе гатоў крупень, дык сядайце, я вам раскажу пра Юрку Касога, адсюль вы даведаецеся і аб замку і аб Трох Крыжох. Вось што кажа легэнда, — пачаў ён.

XX.

### Юрка Касы.

— Сярод глухога непраходнага лесу збудаваў сабе князь замак, каб ніхто ня меў магчымасьці яму пярэчыць і перашкаджаць у яго справах. Было ў яго шмат замкаў. Пабудаваў ён гэты замак тутака, як кажуць, дзеля таго, каб у ім жыла яго красуня-жонка, якая, як думаў князь, здрадзіла яго, і вось ён засадзіў сюды жонку і чакаў, пакуль яна будзе мець дзіця.

Радзіўся хлопчык. Князь прыказаў свайму дварэцкаму занясьці дзіця ў лес і кінуць тамака на зьядзеньне ваўком, а сам, сабраўшы сваіх верных халапоў, выехаў, пакінуўшы жонку ў замку, даўшы прыказ, каб сьцераглі яе.

Але як там здарылася, толькі праз гадоў два прыехаў нейкі ваяка і выкраў княгіню. Кажуць, што жонку ўкраў нейкі заморскі цар.

Праз гадоў з пяць пасьля гэтага прыехаў князь. Даведаўшыся, што яго жонку ўкралі, ён пачаў імсьціцца на людзях.

Уся вакруга стагнала ад князя. Ня было ні праходу, ні праезду нікому.

Князь гуляў усюды і нават не шкадаваў людзей дзеля забавы. Ен цкаваў людзей сабакамі, трымаў ваўкоў, каб пасьля, моцна іх раздразьніўшы, выпускаць на людзей. Завёў для пацехі свае шмат дзяўчат, якіх пасьля пацехі, аддаваў сваім слугам, а на астатак аддаваў зьвяром на яду. Людзі ўцякалі, не аглядаючыся, ад замку. Пры адным успаміне аб князю людзі ўцякалі ў лясы і там хаваліся.

Але вось пайшла дзейка, што зьявіўся нейкі чалавек, які ідзе, каб пакараць князя за ўвесь зьдзек над людзьмі.

Гэтым чалавекам быў Юрка Касы.

Пачуў і князь аб гэтым чалавеку. Часамі яго браў страх, але кожны дзень п'яны, ён не падаваў віду, што нейкі страх браў яго.

Вось раз, калі князь наладзіў вялікі баль і гасьцей было шмат, князь асабліва выбіраў самыя найгоршыя забавы. Напрыклад, ён абмазаў смалой некалькі дзяўчат і падпаліў іх. П'яныя госьці рагаталі, а бедныя дзяўчаты кінуліся ў ваду і ўтапіліся.

Вось, калі ўсіх здалеў сон, князь сядзеў папоцемку ў сваім пакоі. Сон ня браў яго.

А ў той самы час, калі князь гуляў, да замку прыбліжаўся Юрка Касы з сваімі сябрамі. Людзі яго чулі, як стагналі замучаныя князём, і прыбеглі сказаць аб гэтым свайму атаману. І вось той сказаў:

— Браты! Сёньня павінен быць суд над князем. Божы суд будзе Божым. Я сам пайду даведацца, як нам будзе лягчэй дабрацца да замку.

І ён, узяўшы аднаго свайго чалавека, пайшоў у замак. Вось ён забраўся ў замкавы сад і пачаў падпаўзаць да вакна.

Сьвяціў месяц...

У гэты міг князь сядзеў у сваім пакоі, як раптам угледзеў, што нейкі цень прамільгнуў ля вакна. Ен паклікаў свайго дварэцкага і даў наказ, каб злавіць таго, хто меў права быць у парку ў гэты позьні час.

Слугі пайшлі.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

